Год II—1913. Лістапад—Сьнежень 18-ая кніжка.




## ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала

**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**

---

Падпісная цана на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап., за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр.

---

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мецьня больш 20 слоу.

---

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Адрэс рэдакціі: Мінск Александроуская 25.

Годъ II—1913. Лістапад—Сьнежэнь 18-я кніжка.

САХА ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

# Способы паляпшэньня селянскага насеньня.

Дабрата насеньня мае вялікае значэньне ў гаспадарцы, павялічываючы, ці абніжаючы яе даход, бо пры іншых роўных варунках, заўсёды ўраджаі бываюць большые там, дзе насеньне лепшае.

Пры цяперашніх варунках селянскае насеньне найчасьцей бывае слабое па сваей дабраце: дробнае, шмат уселякаго зельля, гатунак невядомы, лёгкі на вагу і дзеля таго нізкая на яго цэна на рынку.

Тымчасам пад засевы рознымі насеньням; займаецца ня менш палавіны ўсей зямлі ў губэрніі і способы, як палепшыць гэта насеньне—вельмі важные і патрэбные, тым больш, што дабрата насеньня адбіваецца на ураджаі ў першым ужо гаду.

Гэты паказ павінен зьвярнуць вялікую ўвагу на способы паляпшэньня насеньня, бо, дзякуючы яму, нашы гаспадары скора могуць перэканацца аб карысьці, якую дае добрае насеньне. А дзеля таго, што ў Віленскай губэрніі найбольш сеюць авес і жыто—на паправу насеньня гэтаго зерня найбольш трэба налегаць.

Апрача таго ёсьць ешчэ важная прычына дзеля чаго трэба старацца завясьці ня толькі добрае, але і аднастайнаго гатунку насеньне, бо тады лягчэй знайсьці купца, каторы можэ ў аднэй ваколіцы скупляць аднастайнае зерне на цэлые вагоны і гэткім парадкам можна будзе абыйсьціся бяз дробных фактароў, каторые, скупляючы зерне па крысе, працуюць, разумееца, не дарма, а перахопліваюць тые заработкі, якіе засталіся-б у кішэні самога земляроба.

Карысьць аднастайнаго гатунку зерняці, відаць ужо с таго што, напрыклад, вялікіе двары, маючы ў сябе аднаковае зернебяруць за яго на капеек 10—15 даражэй на пуд, чым прадаецца селянскае.

Способы паляпшэньня насеньня ў селян гэткіе:

1) Паляпшэньне свайго зерня акуратнай ачысткай і сартыроўкай пры помачы пунктаў для ачысткі зерня.

2) Паляпшэньне насеньня агульнай заменай свайго зерня на падхадзячаго гатунку—дворнае.

3) Набываць і дарма раздаваць выбарнае насеньне і насеньне заводнае, набываючы яго с першых рук.

Што да першага способу паляпшэньня насеньня—акуратнай ачысткай і сартыроўкай, то ужо практыкуецца пры помачы пунктаў для чысткі зерня. Але дзеля таго, што гэткіх пунктаў пакуль што не так ешчэ шмат і каб гэтай дарогай дайсьці да

паправы селянскага насеньня—пройдзе праз лад многа часу, ды і, навогул біручы, чы нават удасца гэтым спосабам дабіцца, каб завясьці праўдзіва добрае насеньне, лепш ужо было-б карыстаць з добраго насення, якое можна знайсьці, шмат дзе па вялікшых дварох.

Гэты спосаб, даючы добрые і скорые рэзультаты, даступны без вялікшых расходаў. Здавалося-б што выкарыстаць яго маглі-б самі хутаране, але беда ў тым, што яны дзеля чагось-то думаюць, а нават пераконаны, што тое насеньне, каторае удаецца па дварох—у іх радзіць ня будзе. Вось дзеля таго, каб нашы селяне перэмянілі свой пагляд на гэту важную справу, каб переканаць іх, як яны мыляюцца,—дый пакуль заахвоцяцца самі сабе старацца лепшаго насеньня,—на пачатак трэба было-б плаціць за іх тую розніцу цаны, якая будзе выпадаць пры замене іхняго збожа на добрае і пэўнае дворнае. Для кожнаго хутараніна можна было-б дапусьціць меняць да 30 пудоў зерня і калі лічыць, што за замену кожнаго пуда прышлося-б даплаціць 10—15 капеек, то на павет выпала б—200 рубл., а на ўсю губэрнію—1400 рублёў.

Спосабы паляпшэньня насеньня пры помачы селекційнаго зерня, каторае павінна раздавацца дарма ў такіх аколіцах, дзе у бліжэйшых дварох добраго насеньня німа, мае вельмі важнае значэньне, бо тады можна заводзіць такіе новые гатункі зерня, каторые найбольш прытасованы да мейсцовых варункоў. Гэткім парадкам могуць паяўляцца цэнтры гадоўлі аднастайнаго гатунку насеньня. Апрача важнаго значэньня для гаспадаркі, спосаб гэты добры і важны ешчэ тым, што ён можэ заахвочываць найбольш сьвядомых і рупных хутараноў да падняцьця культурнай працы каля сваей зямлі.

**Правіцельствены Аграном Віленскай губэрніі**

**Г. Л. КОТЕЛЬНІКОВ.**

# Што і калі баранаваць.

Не такіе ўжо даўніе годы, калі ўсе нашы гаспадары ужывалі барану—ды і то лёгкую—дрэўляную—толькі для скарадзьбы, або каб запахаць сьвежапасеянае зерне.

Але час і практыка паказалі, што бараны ня толькі ня трэба баяцца, але нават яна ў нашай гаспадарцы большае мае значэньне, чым сама саха, або плуг. І вось пачалі перш-на-перш баранаваць бульбу; перэканаўшыся як вялікая з гэтаго бывае карысьць, як толькі пашлі ў ход жалезные бароны, не пабаяліся пусьціць і іх па бульбе; рэзультаты паказаліся ешчэ лепшые. Пасьля бульбы прышоў чарод на боб. І цяпер, бадай, німа ўжо такога гаспадара, каторы не баранаваў-бы жалезнай бараной і бульбу, і боб.

Пазьнейшымі часамі баранаваньне пачало шырыцца і па сенажацях, а ўрэшце і па канюшынах.

І трэба прызнаць, што нічога так непамагае узросту нашых сенажацеў і канюшыны, як у пару іх добра выбаранаваць.

Сенажаці можна баранаваць як з восені, так і раннай вясной, як толькі крыху атпусьце зьверху. Барана павінна быць канешна вострая і цяжкая. Баранаваць—не агледаючыся, як кажуць, т. е. не баяцца, што зусім падзярэш сенажаць, а на адварот: старацца зьдзерці верхнюю скурку—ажно да чарна, асабліва там, дзе шмат моху і сіўцу; мох і сівец так сьцесна растуць, што не прапушчаюць паміж сябе да узросту лепшые лугавые травы. Выдзярты мох трэба пазгрэбаць у кучкі, а як высахнуць яны—зьвесьці у хлеў на подсьціл.

Канюшыну адналетнюю і двулетнюю—баранаваць толькі вясной—у Маі месяцы; барана павінна быць вострая, цяжкая.

Апошнімі часамі зьвярнулі ўвагу і на баранаваньне уселякіх іншых расьлінаў: жыта, пшаніцы, гароху і т. п.

Азіміна—як жыто, так і пшаніца барануюцца с самай раннай вясны, як толькі падсохне крыху земля і пачне трэскацца, а конь не гразьне.

Пшаніца—вясной моцна кусьціцца і дзеля таго не баіцца баранаваньня, яе можна пацягаць па 2—3 разы.

Жыто—вясной кусьціцца слаба, дык і з бараной каля яго трэба хадзіць далікатней: досі прайсьці па разу, а дзе ўжо надта земля заскарузла—там і два разы праехаць можна; пасьля бараны праз колькі дзён яно дужа папраўляецца.

Ярыну—як авес, ячмень, мешанку і т. п. баранаваць па разу.

Трэба толькі памятаваць, што барана заўсёды павінна быць толькі вострая.

Зачапіць нашу збажыну мы так баімся, што цяжка нам угаварыць, але гэта толькі спачатку—пакуль мы самі—на свае вочы не перэканаемся, што барана расьліне ня толькі нічога ня шкодзіць, але нават дужа памагае. А каб, ня рызыкуючы, перэканацца—найлепш зрабіць такую пробу.

На кожным палетку, засеяным розным збожам, як толькі падойдзе час баранаваньня, выбраць такое мейсцэ, дзе усход, ці узрост расьліны аднаковы і там пабаранаваць,—але ня ўвесь пляц, а толькі частку яго, т. е. прайсьці з бараной як бы вузенькім шнурам па яго сярэдзіне, пакідаючы абапал нячэпаную збажыну. А ешчэ лепш—парабіць гэткіе шнуркі бараной па усіх палетках, бо дзе збажына абыйшла погуста, там барана яе парэдзіць, а дзе усход засядзе, ды толькі жаўціцца—там толькі барана і можэ ешчэ выратаваць яго, раздьзіраючы самую верхнюю заскарузлую скурку з зямлі, каторая не магла даць доступу да каранёў расьліны паветру.

Гэткіе пабаранаваные шнуркі, паміж нячэпанаго збожа і будзе найлепшай паказной пробай—практыкай карысьці, ці шкоды ад баранаваньня для кожнай расьліны.

Разумеецца, хоць сабе і будзе такая, ці іншая розніца ад баранаваньня с першага году, пробы гэткіе трэба вясьці праз колькі гадоў і то дзеля акуратнасьці—кожны раз запісываць: калі і якая збажына баранавалася і што з гэтаго выйшло.

Толькі такая праца—праца сьвядомая, разумная, акуратная

і можэ паказаць, навучыць і перэканаць другіх, як павінны мы брацца да сваей гаспадаркі, каб мець, калі ня большы, то хаця-б ня меншы даход, чым маюць з яе нашы заграгічные працавітые суседзі.

**А. Бэнэцэвіч.**

**Дапіска.** Летась у Віленской губ. Вілейск. пав. Парафіянаўскай вол. селянін Апанасэвіч, угледзіўшы, што яго гарох засеў і зажаўцеўся пры самай зямлі, узʼехаў туды з бараной, ды такога яму пытлю задаў, што і знаку гароху не асталося. Праз некалькі дзён земля была чарнюсенька, але ускорасьці стаў паказывацца гарох, ды так зашумеў, што суседзі, каторые лічылі яго ўжо прапашчым, надзівіцца не маглі скуль ён такі браўся. Вырас ён, як кажуць, гледзючы на лес, такі быў удалы.

**А. Б.**

# Падбор фруктовых дрэў.

## (Сартымэнт).

Даць які колечы кароткі рацэпт каторые фрукты лепш садзіць у нашых садох на такім вялізарным абшары, які займае наша Беларусь,—разумеецца, нельга: трэба добра ведаць—мейсцовые варункі і да гэтаго прытасовывацца. Адно толькі можна сказаць: садаўніцтво на Беларусі мае вялікую будучыну, трэба толькі ведаць дзе, што і як садзіць, тады сьмела можэм спадзевацца вялікай даходнасьці і падмогі з нашей працы.

Некаторые кажуць, што каб перэканацца якіе гатункі фруктаў для нас больш карысны і прыдатны, трэба на гэта патраціць шмат грошэй і часу, бо прыдзецца рабіць пробы праз многа гадоў. Зусім лішні страх. Нам ня трэба шмат траціць часу, ня трэба і выдаваць лішніх грошэй. У нас ёсьць немала сьвядомых беларусоў—гаспадароў, каторые, разумеючы усю важнасьць справы гэтай, хіба згодзяцца быць вучыцелямі нашымі і бадай неадмовяцца падзяліцца с чытачамі „Сахі“ ведамасьцямі са сваей практыкі.

Кожны з іх мае садок каля хаты і кожны знае, што ў ім расьце; кожны добра памятуе, як яго дрэўкі перэцярпелі засухі і марозы і кожны памятуе, якіе ад гэтаго згінулі, а якіе не.

На кліч „Сахі“ с кожнаго кутка нашаго краю нехай атклікнуцца нашы гаспадары і пасьпешаць падзяліцца сваімі пробамі ў гэтай справе з намі ўсімі.

Раючы, не варта кідацца на ўселякіе навінкі: трэба іх спрактыкаваць раней добра. Наш сартымэнт павінен быць такі, каб фрукты мелі добры збыт на рынках,—чы на сталічных, чы на блізкіх—мейсцовых; каб надаваліся да перасылкі і каб у нас расьлі добра. Раіць гатункі ня выміраючые, як напр. Сапежанка, і выбіраць такіе, каб не баяліся хваробаў, трэсканьня, плямаў і т. п.

Маючы гэта на мэце, можна выпрацаваць сартымэнт гандлёвых гатункоў.

Агульна бяручы для ўсіх нашых губэрній, я падаю ось такі сартымэнт:

**Яблыкі летніе:** яны гадзяцца для перэработкі на віно і для мейсцовых рынкаў; для сталічных—здатны толькі тые, каторые пасьпяюць да 6 серпеня, бо на Спаса вялікі на іх спрос там.

1. **Папяроўка**—вельмі добрае, пасьпевае на Спаса.

2. **Астраханскае белае**—ў нас завецца Аліўнае, Наліў і рана пасьпевае; смашное. Вымагае грунту сугліністаго.

3. **Баравінка,**—у нас завуць Харламаўскае. Пасьпевае на Спаса.

**Яблыкі васеньніе і зімовые:** (Прыдатные на ўселякіе перэработкі і на ўсе рынкі.

1. **Антонаўка**—з Бабруйшчыны ідзе ў Маскву яе надта многа; лепш расьце ў Магілеўскай губерніі; з дрэва дае да 10 пудоў яблыкоў; усюды мае збыт, хоць, як кажуць, яе ўжо зе многа развялі, але гэта нічога: можна будзе высылаць на заграничные рынкі.

2. **Сэрэнка**—у нас Калмык, Скрыжапэль, Штрумілаўка, Мардэра і Зытаўскае. Вельмі добрае, толькі пачынае позна даваць фрукты, але за тое пасьля добра і кожны год родзе.

3. **Цітаўка,** або называюць Тульскае, чы Ерафенштэйнскае, Ліфляндскае; добры гандлёвы гатунак; не надта хварэе ад паршы; дае ў 20 гаду жыцьця да 15 пудоў яблыкаў у год.

4. **Пэпінка—Літоўская,**—выгадавана у Гродзенскай губ.; на лініі Полацка можэ і будзе вымерзаць, але вельмі добры гатунак; на 20-тым гаду дае да 18 пудоў яблыкаў ў год.

5. **Бойкэн,** хоць ешчэ новы, але вельмі добры гандлёвы гатунак; не баіцца маразоў; варта разводзіць.

7. **Мантвілаўка** добры гатунак; не баіцца маразоў, добры да перавозкі, любіць сугліністы грунт, але добра расьце і на іншым.

8. **Апорт**—хаць ён часта хварэе (трэскаецца і гніе на дрэвах), але добра ідзе ў гандлі. Ня можна толькі яго разводзіць у вільготных мейсцах, бо тады больш ешчэ хварэе; дый вылячыць ня будзе можна.

9. **Паласатае васеньнее,**—гатунак вельмі модны і мае вялікі збыт не сталічных рынках.

10. **Кассэльскі ранэт**—гатунак добры для сталічнага рынку.

С паміж ігруш нейлепш разводзіць:

1. **Лесная Красуня**—завуць яе ешчэ Топка Пукатая; васеньні гатунак; вымагае зашчыты ад вятроў.

2. **Бязсемянка**—васеньні смашны гатунак.

3. **Шэрая Бэра.**

Ігрушы трэба старацца заўсёды садзіць пад поўдзень, ды

каб мелі абарону ад вятроў—чы то лесам, чы гарамі, або хоць штучнай абсадкай якімі колечы дрэвамі.

С паміж сліўкаў:

1. **Вэнгерка**—добрая для ўселякіх пераробак.

2) **Рэйнклёд зялёны**—так сама надаецца на пераробкі.

3. **Дамасцэнка.**

**Вішня** нейлепшая **Владзімірская.**

Чарэшні зусім не варта садзіць, бо яны баяцца маразоў.

Ось і ўсе болей— меней гатункі фруктаў, якіе прыдатны для нашых садоў. Адно толькі ешчэ трэба памятаваць, што калі блізка закладаць сад ад гораду і добры ёсьць збыт, або хто маніцца перэрабляць фрукты сам на віно і т. п., то лепш садзіць летніе гатункі. А хто далёка жыве і ад гораду, і ад чыгункі і маніцца прадаваць фрукты сьвежымі, то лепш садзіць васеньние і зімовые гатункі.

Вільня.

**Садоўнік Янук Крыўка.**

---

# Запаленьне вымяні.

Гэта хвароба бывае ў кароў і авечак ад таго, што нейкая зараза залазе ў соску праз дзіркі ў ей, пападае тады ў вымя і хвароба пасьля гэтаго адразу пачынаецца. Трэба ведаць, што прастуда, ня выдаіваньне малака і раны на вымяні спрыяюць гэтай хваробе.

Пры запаленьні вымяні ў кароў і авечак на ім бываець цьвёрдая, гарачая і балючая пухліна, каторая займае чацьвертую часьць вымяні (одну соску); пухліна гэта бывае бугрыстая, а скура на ёй робіцца шмат таусьцейшай; апрача гэтаго, хворая скаціна іншым разам храмаець і перэстаець есьці. Малако робіцца рэдкае, жоўтае, а часта і чырвонаватае, пры парэньні стварожываецца, а пазьней стварожываецца яно і ў самом вымяні і залеплівае дзіркі ў сосцы.

Калі хвароба доўга цягнецца, то малако саўсім прападае і такая карова згодна толькі на мяса.

Лячыць хворую жывёлу пачынаюць с таго, што дояць яе часта (тры, ці чатыры разы у дзень) і стараюцца зрабіць так, каб хворая жывёла давала меней малака, бо, як я ўжо казаў, яно будзе стварожывацца ў вымяні і заклеіць дзіркі у сосцы. Дзеля таго, каб карова давала меней малака, нятрэба дужа карміць яе, а даваць ей па крысе добрага сена і апрача гэтага трэба даваць што чатыры дні па два фунты гляўбэрскай солі.

Рады гэтые добрые і бяз іх ня можна абысьціся пры лячэньні запаленьня вымяні, але і адных гэтых рад мала. Цяпер-жэ мяне запытаюць як далей лячыць? а далей лячыць трэба вось як: трэба купіць у аптэцы карболавай, ці камфоравай, або бор-

най мазі і ўзяўшы яе—столькі як лясны гарэх—добра уціраць у хворую часьць вымяні. Як толькі малако пачало стварожывацца ў сосцы і заляпіла дзіркі ў ей, ці яны самі сабой зузіліся, то можэ стацца гэтак, што яны і саўсім зарастуць; а каб не дапусьціць да гэтаго, трэба купіць у аптэцы малочную трубачку, ці катэтэр*) сумысьля для гэтаго зробленый і асьцярожна прапхаць дзіркі ў сосцы; каб-жэ дзіркі ізноў не заляпіліся, ці ня зузіліся, трэба установіць у іх трубачкі, зробленые з лямінарыі; праз гэтые трубачкі трэба даіць карову. Трубачкі гэтые так сама трэба ўзяць у аптэцы.

У канцы скажу, што запаленьне вымяні ў кароў такая хвароба, каторая можэ кончыцца і добра, і ня добра, а дзеля таго трэба старацца не дапусьціць да таго, каб карова захварэла, тым болей, што зрабіць гэта ня трэба ніякой навукі, а ўся штука ў тым, каб вымя ў кароў заўсёды было чыстае; каб не даіць кароў бруднымі рукамі; каб вымя ў кароў не пасяклося; каб на ім ня было ранаў; а дзеля ўсяго гэтаго трэба вымя мыць перад тым, як даіць карову; гэтак сама трэба мыць і рукі. Вымя можна мыць цёплай вадой, а ешчэ лепей карболавай вадой, ўзяўшы яе ў аптэцы.

Далей, трэба старацца, каб у хлеве было чыста і суха і ня спускацца да таго, каб скаціна па самые вушы валялася у гнаі.

**Варшава.** **К. Сініцкі.**

---

# Як кавацць коні.

„Німа ног—німа каня“, зусім справядліва кажуць людзі, хоць можэ часта ня ведаючы, што пэўна палавіна хваробаў ног конскіх пачынаецца ад капытоў.

Капыт—гэта сама падпора каня—ці цягне ён воз, ці бяжыць пад сядлом.

Ад гэтаго—як расьце капыт у жэрэбяці—залежыць, як у іх вырастуць ногі: простые, ці крывые; моцные, ці слабые. Дык і ня дзіва, што іх трэба добра глядзець і пільнаваць, каб былі ў парадку. Найлепш-жэ зашановываецца капыт добрым і акуратным акаваньнем.

Перад акаваньнем перш-на-перш павінен каваль ачысьціць капыт, паабрэзаць абломаные часьці, выстругаць гнілые, калі ёсьць, выраўнаваць берагі.

Пільнаваць, каб каваль ніколі шмат ня выстругіваў падошвы ў капыце; не абрэзаў **„стрэлкі“**. Стрэлкай конь прытыкаецца да зямлі, а пад ёй ёсьць костачкі і мягкіе часьці, вось дзеля гэтаго нельга, каб каваль зачапляў яе стругам,—хіба толькі тады, калі прыходзіцца абрэзаць згніўшые, або надарваные кавалачкі.

---

*) Што такое катэтэр—аб гэтым пісалося ў „Сасе“ і чытачы павінны ведаць. Ня трэба толькі спутаць с тым катэтэрам, каторым выпушчаюць мачу коням.

Таксама глядзець, каб не зарэзываць за шмат сьценкаў капыта пры пятках, бо тады будзе конь за лішне на пятках стаяць і нацягаваць жылы ў назе. Абодвы бакі капыта—с сярэдзіны і з надворку павінны быць аднакова роўна зрэзаны, каб капыт проста на зямлі стаяў, с пераду не за доўгі, бо тады конь часта зачапляе капытом за зямлю: спатыкаецца, а так сама за шмат націскае на панціну (бабку). Зноў трэба зважаць, каб ня быў за кароткі, бо толькі тады конь сьмела можэ ісьці на нагах. Ніколі не пазваляць кавалю перарэзываць „успораў“ капыта.

„Успоры“—гэта той вузкі бытцам пасачак рагавы, што загінаецца ад канца капыта, ад пяткоў уздоўж „стрэлкі“ да сярэдзіны падошвы ў капыце. Як конь стаіць—капыт расшыраецца, калі-ж яго падыме—звужаецца. А расшыраецца і звужаецца толькі дзеля „успораў“-таго невялічкага рагавога пасачка.

Раўнуючы капыт, не пазваляць кавалю абрэзаць яго зьверху, але толькі выстругаць стругам с пад споду—пры самым беразі, каб рог с пад глязуры капыта ня выставаў. Так сама ніколі не даваць рашпляваць па верху, бо як зрашплюецца глязура, капыт высыхае, робіцца крохкі, ламаецца. Калі капыты як мае быць абчышчаны, тады толькі зняць мерку і рабіць падковы. Каня—пакуль не акаваны—ня выводзіць са стайні.

Каваць можна на гладкіе падковы і на гацэлі. Гладкіе падковы шмат лепшые, лягчэйшые і конь лепей і акуратней на іх ходзіць. Трэба толькі, каб праз цэлую падкову, дзе ідуць гуфналі, зрабіць раўчучок, каб конь меў чым зачапляць за зямлю: ня слізгаўся.

С пераду—на пярэдніх падковах павінен быць каптур—толькі як найцянейшы, каб яго можна было гладка прытуліць да капыта. Куючы каня на гацэлі, пільнаваць, каб яны былі як найкарацейшые і ішлі проста ад падковы да зямлі, а не пахіляючыся ў перад; так сама і грыф на перадзі. Але на гацэлі лепш зусім не каваць—хіба ў горадзі, ці пад вялікіе ціжары.

Зімой куюць коні на востра, т. е.: гацэлі робяць вострые. Добра было-б, каб нашы гаспадары куплялі фабрычные падковы на зіму. У гэткіе падковы можна укручываць грыфы на гвінціках і аднімаць іх, калі не патрэбны.

Гэты бок падковы, каторы прыбіваецца да капыта—павінен быць гладкі і роўны і зусім роўна пасаваць да берагу капыта, а бераг падковы ад сярэдзіны капыта—выбухтованы, каб нідзе не націскаў на падошву. Калі падкова няроўна прыпасована да капыта і выстае, то коні часта абіваюць сабе ногі, стрыхуюць и калечацца.

Нерабіць падковы за лішне грубой і шырокай; чым лягчэйшая, тым лепшая, але гэта залежыць шмат, разумеецца, ад вялічыні капыта, да якой работы будзе ўжывацца конь і на якіх дарогах прыдзецца яму хадзіць.

Трэба так рыхтаваць, каб каваць каня раз на 6—7 тыднеў. Рабіць як найменш дзірак у капыце—6—7 гуфналёў досыць. Кал. будзе 7,—то павінна быць тры с сярэдзіны, а чатыры з надворку. Калі—6, то па тры с кожнага боку. Гуфналі браць ня грубые, а

то паадшчэпліваюць капыт, хіба што конь надта вялікі і цяжкі. Не прыпасовываць за лішне гарачэй падковы да капыта; лепш больш работы зрабіць нажыкам, чым гарачую падкову прыкладаць да капыта, бо тады рог высыхае і крышыцца. Дзіркі на гуфналі так зрабіць у падкові, каб галоўкі іх акуратна лежалі на тым белым паяску, які значны на падошві—на капаце.

Куючы каня, асабліва маладога, ня крычаць на яго і—сьцеражы Божэ—ня біць, бо сам сабе крыўду зробіш: конь будзе помніць гэта і на другі раз не захочэ спакойна стаяць.

Нагі высока не паднімаць, бо баліць і конь будзе яе вырываць; таксама не апірацца плячыма на кані і як толькі можна—пушчаць нагу, каб адпачыла.

Калі конь малады і неспакойны, добра даць яму які ланцужок, або друч пад нос, каб меў занятку—гуляў; але заўсёды хадзіць каля яго спакойна і лагодна.

У жэрэбяткаў трэба таксама абгледаць капыты хоць які раз на два месяцы, каб добра яны расьлі і ног ня выкручывалі.

**Лебёдка.** **Г. И.**
24—X—13.

---

# Што такое пладазьмен.

*„Разумна нарыхтаваны пладазьмен мае для ураджаю ня меншае значэньне, чым гной і добрая выраб-ка зямлі“.*

*Прафэсар* **П. Кастычов.**

Каму з нас ня прыходзілося чуць ад старых людзей, што даўней ураджаі былі шмат лепшые і большые, чым цяпер. І гэта праўда. Сама навука навет гэта сама нам паказывае. Здаўна ўжо людзі вучоные рабілі ўселякіе пробы з засевамі і перэканаліся вось у чым.

Калі праз даўжэйшы час—праз колькі гадоў сеяць на адным і тым самым мейсцы адну і тую самую збажыну, то як не вырабляй зямлі, як не давай гною, а збажына гэта пачне даваць што раз слабейшы ўраджай і меншы ўмалот.

Гэтак рабілі пробу ў адным двару на Украіне, дзе праз 40 гадоў сеялі на адным і тым самым кавалку зямлі пшаніцу. Зямлю выраблялі і гноілі кожны год аднакова. І што-ж паказалося? Калі першые гадоў 20 намалочывалі пшаніцы з гэтага кавалку пудоў 80, то пасьля з яго мелі ўсяго 60 пудоў, а на астатак толькі 50. Само сабой, каб сеялі ешчэ дальш гэтак сама, то ўраджай ешчэб паменшыўся.

Ня менш цікаўную практыку паказывае нам Палтаўскае пробнае поле з жытам. Там засевалі адзін і той самы кавалак

поля пры аднаковай з году ў год вырабцэ зямлі праз 9 гадоў. У першым гаду намалацілі жыта з гэтаго кавалку поля 119 пудоў; праз тры гады бывало ўжо ўмалоту ня больш 75 пудоў, а ешчэ праз тры гады—ўсяго толькі 38 пудоў.

Як бачыце, розніца ўмалоту паміж першым трахлецьцем і апошнім—не маленькая: 119 і 38 пудоў! У чым-жэ прычына гэткай розніцы? А вось разгледзім.

Усе нашы палёвые расьліны цягнуць з зямлі сваімі карэньчыкамі тры найважнейшые і найпатрэбнейшые для свайго узросту пажывы: фосфар, калі і азот. Толькі тады земля і будзе добра радзіць, калі ў ёй ёсьць заўсёды пад дастаткам гэткага корму для расьлінаў. Трэба толькі ведаць і памятаваць нашаму хлебаробу, што ня кожная расьліна выцягівае для сябе з зямлі адзін і той самы корм.

Жыта, авес, ячмень і т. п.—так званые—злакі забіраюць з зямлі найбольш азот (салетру) і фосфар.

Бульба, буракі, моркаў і іншые падобные так званые—карняплоды жывяцца найбольш каліем (паташом), мала ўжываючы азоту і фосфару.

Урэшці расьліны так званые матыльковые, як гарох, боб, выка, канюшына і т. п. найбольш забіраюць з зямлі фосфар і калі (паташ), а зусім ня чэпаюць грунтоваго азоту, бо маюць такі ўжо свой склад у росьце, што патрэбны сабе азот цягнуць с паветру.

Значыцца, адны расьліны ласы на азот, другіе—на паташ, іншые—на фосфар і калі.

Цяпер лёгка зразумець, што калі мы пачнем сеяць на адным і тым самым мейсцы аднаковую расьліну, т. е. такую, каторая цягне з зямлі адну і тую самую пажыву для сябе, то хоцьбы земля была найлепшая, ўсё-ж такі яна скора выпалашчыцца з якога колечы корму.

Гэтак, калі мы будзем сеяць на адным мейсцы усьцяж толькі злакі, то яны скора выцягнуць з зямлі ўвесь азот і фасфор (а паташ будзе там валяцца без ніякой карысьці), і ці то жыто, ці авес, ці іншые якіе злакі радзіць перестануць.

Тое самое выйдзе, калі-б пачалі мы садзіць усьцяж на адным мейсцы бульбу ці іншые якіе карняплоды: найлепшая земля ускорасьці так зьбяднее на паташ, што ураджай будзе зусім слабы, хоць сама земля будзе вельмі багата на азот і фосфар.

Апрача таго, сеючы аднаго складу расьліны усьцяж на адным мейсцы праз колькі гадоў, ня толькі што земля выпалашчыцца с таго, ці іншаго корму, але могуць быць і другіе ня меншые, калі ня большые беды і страты ў засевах.

Вядомая рэч, што кожная расьліна мае сваіх асобных ворагаў—шкоднікаў. Прымерам: на жыта нападаюць: жытні рабак, гэсэнская муха, пільшчак і т. п. На бульбу—драцяногі рабак, бульбяная гніль і іншые.

Дык, калі завядзецца на полі ў якой колечы збажыне шкоднік, а мы праз колькі гадоў на тым самым мейсцы будзем сеяць, ці садзіць тую самую расьліну, на каторую як раз гэты шкоднік

ласы і толькі ёй жывіцца, то гэтым мы так дагодзім свайму ворагу, што ён гатоў на столькі расплодзіцца, што можэ зьніштожыць увесь засеў.

Зусім інакшае, асаблівейшае маюць значэньне для грунту ўсе матыльковые (называюць іх ешчэ і „бабовые“) расьліны, як канюшына, боб, выка, гарох і т. п.

Усе яны адзначаюцца тым, што карэньні свае запушчаюць у глыб зямлі на аршыны два, а то і болей, і такім парадкам цягнуць з зямлі пажыву сабе тую, каторую не дастануць сваімі кароткімі карэньчыкамі іншые расьліны, як жыто, пшаніца, авес і т. п.

Апрача таго, на карэньчыках бабовых расьлінаў нарастаюць такіе гузочкі, ў каторых плодзяцца маленькіе жывучкі (бактэрыі); вось гэтые бактэрыі і маюць у сабе тую асаблівасьць, што жывучы ў сваіх гузачкох на карэньнях матыльковых расьлінаў, захопліваюць с паветра азот і перэдаюць яго колькі трэба расьлінам. Мала таго, калі с поля зьбярэцца засеў, то ешчэ застаецца азот у сьцерні і карэньнях.

Матыльковые расьліны, значыцца, маюць у гаспадарцы вялікае значэньне:

1) выцягіваюць корм з глыбі зямлі, дзе інакш ён прапаў бы без карысьці.

і 2) ня толькі не забіраюць азоту, які быў у запасе у грунце, але ешчэ самі яго сьцягіваюць с паветра і частку пакідаюць пасьля сябе ў ральлі.

Лубін, напрыклад, каторы так сама прыналежэ да матыльковых расьлінаў, дзеля таго толькі найбольш і сеюць, што, зараўшы яго, мы заорываем разам з ім і той корм, каторага ён нассаўся з глыбі зямлі і той азот, каторы ён сабраў с паветра пад верхнюю скібу, аткуль ужо могуць карыстаць з гэтаго і расьліны с кароткімі карэньчыкамі, як жыто, авес і іншые.

Цяпер хіба будзе ясна зразумела, чаму нельга сеяць на адным і тым самым мейсцы усьцяж праз колькі гадоў аднаковае збожэ, а трэба яго чэрадаваць.

У які-ж спосаб чэрадаваць? Гэта ўжо разабрацца не цяжка, калі ешчэ раз прыпомнім сабе якога вымагаюць корму нашы расьліны.

І так: зернявые пасевы, як жыто, пшаніца, авес і другіе—бяруць з зямлі найбольш азоту і фосфару, а мала паташу.

Земляплоды—бульба, буракі, морква і т. п.—як раз наадварот: выцягіваюць шмат паташу, а за тое мала зужываюць азоту і фосфару.

Пасьля земляплодаў, ці, як іх ешчэ называюць,—прапашных (бо як бульбу, так буракі, моркву праз лета абганяюць колькі разоў—прапахіваюць) выпадае сеяць зноў зернявое дабро; гэтак і робяць: сеюць ярыну, бо хоць паташ з зямлі пасьля прапашных расьлінаў будзе выпаласканы, але ён для ярыны не надта і патрэбны, а фосфару і азоту, каторых земляплоды мала ужывалі для сябе, праз гэты час мелі спосаб узапасіцца столькі ў зямлі, што іх якраз хопіць для ярыны.

А скуль-жэ ўзяўся гэты новы прыбытак азоту і фосфару?

Сельска-гаспадарская практыка і навука паказалі мам, што, калі катораго году пасеянае дабро мала зужывае для сябе якога колечы корму з зямлі, то яго там прыбывае, дзякуючы розным прычынам: паветру, клімату і т. п., а так сама—складу самой нашай зямлі, дзе капошацца мільярды мільярдаў розных бактэрый—жывучак, рабакоў, кузурак і т. п. памашнікоў земляроба. Памашнікамі нашымі дзеля таго іх можна назваць, што ўсе яны распладжываючыся, жывучы і ўміраючы узбагачываюць зямлю рознымі, патрэбнымі для узросту расьлінаў кормамі.

Вось, значыцца, каб зямлю ня пустошыць і мець пэўнейшые ўраджаі, нам і трэба чэрадаваць год за годам свае расьліны так, каб адны другім не перэшкаджалі, т. е. каб сёлетняя расьліна не выцягівала за лішне корму з зямлі таго, які патрэбны будзе для расьліны на будучы год.

Разумна і ўмела нарыхтаванае гэткае чэрадаваньне расьлінаў і называецца **пладазьменам**.

Пладазьмены бываюць розные: 4-х польные, 5, 6, 7 і т. д.; бываюць нават 12-ці польные і болей. Усё залежыць ад таго, на колькі палеткаў падзелена ўся пахатная земля.

Даваць які колечы агульны рацэпт, ці мадэль якім павінен быць пладазьмен, разумееца, ні водзін мудраля ня можэ, бо ўсё гэта залежыць ад мейсцовыхъ варункаў т. е.: якая і колькі зямлі, колькі ёсьць сена, с чаго найлепшы можэ быць даход на мейсцы, ці далёка ад таргоўваго, ці жалезна-дарожнаго пнухту і т. д., і т. д.

Толькі добра ведаючы ўсе гэтые варункі, можна акуратна параіць, як нарыхтаваць новую, больш даходную гаспадарку пры помачы пладазьмену.

**Янка Почэпка.**

---

# Гадоуля рыбы.

## Аб тым, што я сам бачыў.

У Седлецкай губ. Гарволінскаго пав., ў парафіі Жабанцэ ксёндз П—скі меў каля свайго саду дзьве меншые чым па маргу, заросшые аірам, сажалкі.

У 1911 гаду ксёндз, наняўшы работнікаў, вычысьціў абедзьве гэтые сажалкі, што каштавала яму 300 рублёў, дый напусьціў туды рыбы—карпаў, за каторую заплаціў 10 рубл. Каб рыба лепш і хутчэй расла, ксёндз яе прыкормліваў бульбай і лубінам. Бульбы на гэта пашло 4 асьміны (3 рублі) і 15 пудоў лубіну (10 рубл.); корм абыйшоўся 13 рублёў, а ўсяго значыцца, расходу ў першым гаду было 329 рублёў.

У восень таго-ж самаго году ўсю рыбу сваю ксёндз прадаў купцом і ўзяў за яе 300 рублёў. Як бачыце с першаго-ж году адбіў увесь наклад, які быў зроблены на упарадкаваньне сажалак, а недахвату асталося толькі 29 рублёў.

У 1912 гаду ксёндз купіў ужо на 20 рубл. карпаў і пусьціў іх у тые самые сажалкі. За корм для рыбы—лубін і бульбу заплаціў 13 рубл. Разам, значыцца выдатку ў 1912 гаду меў 33 рублі, а з недахватам 29 рубл. с 1911 году ўсяго 62 рублі.

У восень 1912 г. купцы заплацілі за ўсю рыбу зноў 300 рублёў. Гэткім парадкам на другім ужо гаду ня толькі вярнуліся ўсе наклады і расходы, але ешчэ асталося чыстаго заработку 238 рублёў!

Сёлета пусьцілі ў сажалкі рыбы ўжо на 30 рубл.; на лубін і бульбу пашло 15 рубл.; разам, значыцца, было расходу 45 рубл.

У гэту восень ксёндз узяў за рыбу так сама 300 рублёў; але апрача таго пакінуў ешчэ і сабе на гадоўлю 93 штукі самачак і аднаго самца.

З гэтаго, як бачым, сёлета, асталося апрача рыбы на завод, грашмі чыстаго даходу 255 рубл., а лічучы разам з леташнім заработкам—238 р., усяго праз тры гады, пакрыўшы гэткі вялікі наклад, як 300 рубл. за капаньне сажалак і іншые ўсе расходы, асталося чысьцюсенькіх 493 рубельчыкі!

Німа што, здаецца, гаварыць і пераконываць, на сколькі карысна можэ быць гадоўля рыбы. С такіх кавалкаў, дзе сьперша стаяла зялёная сьмярдзючая сажалка, або было балото, заросшае аірам, у каторым толькі кумкалі жабы, як відаць, можна мець нязгоршы даход і падмогу пры нашай агульнай гаспадарцы.

**П. М. Сабешынец.**

---

# Дробные рады.

## Даглёд ацяліўшэйся каровы.

Праз першые 2—3 дні пасьля ацяленьня каровы не даваць ёй цяжкой яды і густога пойла. Пойла павінно быць с цёплай вады, крышку толькі абсыпанае мукой.

Калі цялё ня ўсё высысае з вымяні малако, усьлед за кожным разам трэба здаіваць да чыста.

Калі часам вымя ў каровы цьвярдзее, або паказываюцца на ім гузакі—мазаць яго сьвежым не салёным маслам. А як і гэта не памагае, то купіць у аптэцы камфаровай масьці; толькі, мажучы ёй, трэба абмінаць соскі.

Сьцерагчы карову ад прастуды.

Калі-б цялё захварэло на жыватоқ (ляксу)—даць курынае яйка разам з лушпінай; раздушыўшы яго ў руцэ, асьцярожна і дэлікатна усунуць целяці ў горла.

**М. Фалькоўскі.**

---

## Сляпота ў жывёлы ад аўсянай мяккіны.

Не раз трапляецца, кормячы скаціну аўсянай мяккінай, ці

нават трушанкай з аўсянай саломай, што зацярушыцца вока ў жывёлы. Калі у час не даваць рады, то вока у скорасьці зацягівае бельмам.

Трэба ведаць, што зацярушанае аўсянай мяккінай вока робіць уражэньне бытцам яно ўдарано і гаспадар часта, мест ачысьціць вока ад мяккіны, лечэ яго ўселякімі непатрэбнымі парашкамі і разумеецца нічога не памагае.

Зьняць мяккінку з вока ані пальцам, ані якой колечы шматкай—нельга, а толькі можна злізаць языком: адзін чэлавек павінен прытрымаць жывёлу за ногі, а другі—спрытна злізаць вока.

М. Фалькоўскі.

## Чы можна карміць кароў падчас даеньня.

Шмат каторые с паміж гаспадароў думаюць, што калі карове даваць яду падчас даеньня, то яна і спакайней будзе стаяць, і лепш будзе даваць малака.

Гэта вялікая абмылка: ніякая карова не здатна, дый ня можэ спаўняць акуратна і добра дзьве за раз работы.

Той гаспадар, каторы вывядзе ў сябе гэты дрэнны звычай, ужо ніколі да яго ня вернецца.

Праўда, с пачатку замены старога (кармешка падчас даеньня) спосабу на новы (кармешка пасьля даеньня)—карова будзе неспакоіцца, але толькі першые дні, бо ускорасьці забываецца і зусім адвыкае.

## Як вызваць ахвоту у кароў.

Каб вызваць ахвоту ў кароў, трэба у дзень даваць па аднаму гарцу гароху на кожную штуку.

Гарох трэба сперша намачыць на суткі, пасьля адварыць і даваць яго разам с пойлам.

## Як бараніць фруктовые дрэвы ад зайцаў і мышаў.

Просты і не дарагі спосаб ёсьць на гэта—пялун,—каторым трэба абвязываць фруктовые дрэвы з восені. Дзе пялуну скупа, можна яго ўжываць для абвязкі на палавіну с саломай.

Ані зайцы, ані мышы не пераносяць паху пялуну, дык да дрэў ані прыступяцца.

## Як зьвясьці пацукоў і мышаў.

Узяўшы сухога парашку гіпсу, зьмешаць яго на палавіну з ячменнай, ці аўсянай мукой.

С пачатку муку ставіць чыстую, а калі ўжо мышы і пацукі абласуюцца—па крысе дасыпаць гіпсу. Трэба толькі каб блізка таго мейсца, дзе стаіць гіпс—канешна стаяла і вада у такой пасудзіне, каб мышам лёгка было з яе напіцца, бо пад'еўшы гіпсу, страшэнна смаліць ім у сярэдзіне, дык яны накідаюцца на ваду, ад каторай гіпс у кішках разбухае і яны здыхаюць.

Спосаб гэты тым добры, што ніякай рызыкі і небязпэчнасьці для жывёлы німа, як гэта бывае пры іншых спосабах атруты.

**У Мінску выходзіць новы беларускі месячнік**

# „Л У Ч Ы Н К А“

**„ЛУЧЫНКА“** будзе першым беларускім месячнікам для навукі і эдукацыі падрастаючага маладога пакаленьня.

**„ЛУЧЫНКА“** ставіць сабе за мэту быць добрым і мудрым павадыром маладзежы, вясьці яе к прўдзе, добрым звычаям, каханьню сваей бацькаўшчыны, шанаваньня чужой націіі веры.

**„ЛУЧЫНКА“** жывымі прыкладамі у апаведаньнях будзе ўплываць на душу, характар і розум маладых сваіх чытачоў, каб вырабіць з іх ня толькі добрых сыноў і дачок, але і справядлівых, сумленных людзей і грамадзян.

**„ЛУЧЫНКА“**, апісываючы жыцьцё вялікіх і сярэдніх людзей, будзе прывучаць да трыманьня свайго слова, праўдзівасьці, шчырасьці, цьвёрдасьці характару, каб чэлавек не зьбіваўся с пуці, па каторым ён пастановіў ісьці.

**„ЛУЧЫНКА“** будзе аткрываць па троху перад сваімі чытачамі вялікую і дзіўную кнігу сьвету і прыроды, дзе ўсё мае свае прычыны, і свае мудрые законы.

**„ЛУЧЫНКА“**, знаёмячы з жыцьцём жывёлоў, птушак, рыб, расьлін, пастараецца залажыць у сэрца цара натуры літасьць да жывёлоў.

**„ЛУЧЫНКА“**, будзе пашыраць кругазор, тлумачыць усе зьявы прыроды, глаўные законы фізыкі і хіміі, жыцьця зямлі, перад каторымі астанаўліваюцца у паўсядневным жыцьці, як прэд незразумелымі загадкамі.

**„ЛУЧЫНКА“**, у сваіх апаведаньнях будзе зьвертаць увагу на хараство жыцьця, будзе разам с чытачамі заглядываць у хату, у школу, у поле, у вёску, у мястэчка, у места, раскрываючы маладым вачам шырэй і шырэй жыцьцё.

**„ЛУЧЫНКА“** будзе даваць апаведаньня, вершы, народные казкі, басьні, прыказкі, загадкі.

Кожная кніжка „ЛУЧЫНКІ“ будзе саўсім закончэная рэч, будзе мець ад 32 да 48 страніц і за год выйдзе цэлы круг да чытаньня; глаўным спосабам з быту беларускаго

**„ЛУЧЫНКА“** будзе знаёміць з географіей і гісторіей роднаго краю.

Падпісная цэна на „ЛУЧЫНКУ“: на 1 год—2 руб., на 6 мес.—1 р., на 3 мес.—50 к. асобны нумэр 15 к. с перасылкай 17 к.

Падпісная цэна на „ЛУЧЫНКУ“ разам с сельск.-гасп. месячнікам **„САХА“**: на 1 год—3 руб. на 6 мес.—1 р. 50 к. на 3 мес.—75 к.

Падпішчыкі **„САХІ“** дастаюць дарма на пробу лепшые гатункі насеньня. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы каб плату налажылі на першы высланы нумэр.

Першая пробная кніжка „ЛУЧЫНКІ“ вышлецца дарма усім тым, хто прышле атрыткай свой адрэс.

Адрэс рэдакцііі: „ЛУЧЫНКІ“ і „САХІ“: **Мінск Александроуская вул. 25.**

*Рэдактар-выдавец* „ЛУЧЫНКІ“ і „САХІ“ А. УЛАСОУ.

Мінск. Электро-Друкарня Н. Нахумава,—тэл. № 524

**Просім прыслаць адрэсы вашых знаемых, каторым мы вышлем пробны нумэр „САХІ“.**

# Ад рэдакцыі.

„САХА“ ад гэтаго сьнежня перанеслася ў Мінск і будзе ўжо тут выходзіць. Рэдакція выбрала Мінск, бо гэты горад ёсьць цэнтр вялізнай землядзельчэскай правінціі; Мінская губэрнія па абшару зямлі больш, як Віленская і Ковенская разам узятые; Мінск ёсьць геомэтрычны цэнтр Беларусі; ў Мінску ёсьць кряёвая пробная балотная станція і адкрываецца школа палепшэньня сенакосаў і дабываньня корму; ў Мінску маець быць адкрыты вышэйшы сельска-гаспадарскі інститут; ужо адкрыты земскі сельска-гаспадарскі музэй, і Мінск робіцца цэнтрам земскай аграноміі і мы верым, што Мінск вырабіцца с часам на культурны беларускі цэнтр. Разам с падняцьцем земляробства і „САХА“ будзе вырабляцца на часопісь, адкуль будзе гаварыць практыка і навука гаспадарская на карысьць роднаго краю.

**Адрэс рэдакціі: Мінск Александроўская 25.**

---